# І б'юць, і плакаць не даюць

Зусім нядаўна Акадэмія навук БССР выдала зборнік **«Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі».** Падрыхтаваў яго да друку кандыдат філялягічных навук **Ф. Янкоўскі,** а рэдагаваў **М. Суднік,** таксама кандыдат філялягічных навук.

На шаснаццаці з палавінаю друкаваных аркушах зьмешчана агулам больш за пяць з палавінаю тысячаў прыказак, прымавак і ўстойлівых выразаў. Матар'ял пададзены не ў альфабэтным парадку, а ў пляне тэматычнага прынцыпу сыстэматызацыі, гэта значыць у пляне ідэйна-палітычнага, сацыяльнага зьместу прыказак і прымавак. Такім чынам, складальнік зборніка «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі» апынуўся перад вельмі трудным і няпрыемным абавязкам выкананьня партыйнага заказу. Вычуваецца гэта выразна ў слове «Ад складальніка». Кандыдат філялягічных навук Ф. Янкоўскі гаворыць наступнае: «Зразумела, што складаньне зборніка па такому прынцыпу выклікала пэўныя цяжкасьці і аказалася ня простаю справаю. Складанасьць такой сыстэматызацыі вынікае галоўным чынам з таго, што прыказкі і прымаўкі часта зьяўляюцца шматзначнымі, нярэдка адна прыказка падыходзіць і да адной і да другой тэмы, а часам і да трэцяй».

Аднак, якім-бы трудным і няпрыемным ні быў партыйны заказ, складальнік зборніка (гэта вычуваецца з усяго дадзенага ў зборніку) мусіў падпарадкавацца заказу, бо зборнік беларускіх народных прыказак і прымавак мусіў стацца, як гаворыцца ў слове Ф. Янкоўскага «Ад складальніка» (трэба разумець усё гэта не як словы Янкоўскага, а як загад партыі) «даведнікам і дапаможнікам для настаўнікаў і працаўнікоў друку, агітатараў і прапагандыстых, студэнтаў і вучняў.» З гэтае прычыны (прычына не бяз прычыны) прыказкі і прымаўкі, (старыя — падстылізаваныя й падмаляваныя — і новыя, — змайстраваныя савецкаю прапагандаю) — падзеленыя на дзьве часткі, а менавіта: **«Дарэвалюцыйныя прыказкі і прымаўкі»** з падразьдзеламі, падбітымі пад «савецкі капыл», напрыклад: «Сацыяльная няроўнасьць і несправядлівасьць у мінулым, узаемаадносіны паміж багатымі і беднымі» (трэба зьвярнуць увагу на выраз **«у мінулым»),** «Былыя законы і суд. Узаемаадносіны паміж працоўнымі і прыслужнікамі царызму і магнатаў», «Рэлігія і яе сутнасьць. Рэлігійныя прыслужнікі», «Радзіма, патрыятызм», «Калектыў і калектывізм», «Падхалімства, махлярства, крывадушша, хітрасьць, няўдзячнасьць, самалюбства, недаверлівасьць, індывідуалізм». **«Новыя прыказкі і прымаўкі»** з падразьдзеламі: «Камуністычная партыя. Вялікі Ленін», «Кастрычніцкая рэвалюцыя. Грамадзянская вайна», «Савецкая айчына, новае жыцьцё», «Калектывізацыя, калгасная праца», «Вялікая айчынная вайна», «Супраць падпальшчыкаў вайны, ворагаў савецкай радзімы» і г. д.

У кажным асобна ўзятым разьдзеле прыказак і прымавак, гэта значыць унутры тэмаў, захаваны альфабэтны прынцып.

Зборнік «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі», ня лічачы зборніку «Беларускія народныя песьні, загадкі, прыказкі», укладзенага выдатным сучасным зьбіральнікам і знаўцам вуснай народнай беларускай творчасьці Р. Р. Шырмам, (ДВБ, Менск, 1947 г.), зьяўляецца першым зборнікам або, як пісалася ў бээсэсэраўскай прэсе, «вялікім падарункам беларускаму народу» на саракавым годзе бальшавіцкага кастрычніцкага перавароту.

Нельга-ж, напрыклад, уважаць за нешта паважнае тыя прыказкі й прымаўкі, якія час-ад-часу друкаваліся ў фальклёрных зборніках тыпу «Жанчына ў беларускай народнай творчасьці» (Менск, АН БССР, 1940 г.), у бальшавіцкім лістку часу Другой сусьветнай вайны «Раздавім фашысцкую гадзіну» ці ў «Блакноце агітатара». Зьмешчанае там ня мела нічога супольнага із запраўднай вуснай народнай творчасьцяй, шліфаванай не гадамі, а вякамі; гэта — сурагат, змайстраваны ў выніку прапагандовае ліхаманкі бальшавіцкага культу Сталіна, «мудрасьці» партыі, «заможнага і шчасьлівага» жыцьця ў прыдушанай партыйнай дыктатурай Беларусі.

Што-ж змусіла Акадэмію БССР выдаць зборнік «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі Ф. Янкоўскага, маючы на ўвазе, што на працягу трыццаці апошніх гадоў упарта адкідаліся зборнікі іншых, больш знаных зьбіральнікаў вуснае народнае творчасьці? І апошнія, як нам ведама, траплялі ня толькі ў вялікую няласку, але і ў канцлягеры дзе назаўсёды змыкалі вочы й пакідалі свае косьці на далёкай чужыне — адны ў мярзлоце Поўначы, а другія ў гарачых пяскох Казахстану.

Перш-наперш нельга не пагадзіцца з тым, што згаданае выданьне не зьяўляецца ні вынікам няслаўнае «адлігі», ні вынікам «рэгабілітацыі» вуснае мудрасьці нашага беларускага народу. Справа ў тым, што, бадай, ніколі яшчэ не карыстаўся наш народ у такой меры народнымі прыказкамі й прымаўкамі, як цяпер у гэтак званым пэрыядзе «пасьпяховага пераходу ад сацыялізму да камунізму». Народ, прыгнечаны фізычна й духова, ня маючы нічога людзкага дзеля душы й сэрца ў выніку антынароднае палітыкі партыі й ейнага сацыялістычнага рэалізму, адводзіць сваю душу несьмяротнай народнай мудрасьцяй, якая прайшоўшы праз вякі, ня страціла свайго значэньня, сьвежасьці й актуальнасьці і сёньня. Прыказкі й прымаўкі часоў прыгону ўжываюцца сялянамі-калгасьнікамі пры кажнай нагодзе й тым самым выказваюць свае адносіны да савецкае паншчыны, да савецкіх парадкаў, да сацыяльнай няроўнасьці, да камуністычнае несправядлівасьці, да маны й хвальшу, да наглядачоў-прыганятых; інакш кажучы, «старое кроіцца на новы лад» і «мераецца на свой капыл». Пэўна-ж, што савецкі чалавек, прыгадваючы прымаўку: «Каб ня панскія парадкі, дык і самі былі-б гладкі», мае на ўвазе не паноў-абшарнікаў, не магнатаў мінулага, а савецкія парадкі, савецкага «пана»-камуністага; у прыказку: «Круцель на круцялі едзе й круцялём паганяе» укладаецца зьмест савецкага круцельства-шальмоўства; прыказкі: «Бяда на бядзе едзе, бядою паганяе», «Жар гарыць, вада кіпіць, толькі няма чаго варыць» — выказваюць бяду-гора, выкліканую беднасьцяй і бяспраўнасьцяй савецкага працоўнага чалавека; Прыгадваючы прыказку «Паны грызуцца, а ў мужыкоў чубы трасуцца», чалавек мае на ўвазе зьмест новае, створанае на ейны кштaлт прыказкі: «У Маскве грызуцца, а ў людзей ногі трасуцца»; прымаўкаю «Бяз Бога ні да парога» выказваецца рэакцыя народу на палітыку камуністычнага бязбожніцтва, адмаўленьне «усемагутнасьці» й «мудрасьці» камуністычнае партыі й г. д.

У выніку такога масавага, шырокага карыстаньня прыказкамі й прымаўкамі мінуўшчыны, іхнага ўмелага трапнага датарнаваньня да сучаснага палажэньня, стварэньня прыказак і прымавак антысавецкага, антыкамуністычнага характару й няпрызнаньня прыказак і прымавак, створаных савецкімі прапагандыстамі, партыя, як відаць, пастанавіла «ўнармаваць» карыстаньне багацьцем беларускіх народных прыказак і прымавак і паставіць яго пад кантроль вачэй і вушэй генэральнае лініі КПСС. Думка «генэральнае лініі» відна і ў уступным слове «Ад складальніка». Гаворачы аб IV томе этнаграфічнага зборніку «Люд беларускі на Русі літоўскай» (Варшава, 1935 г.), Ф. Янкоўскі піша: «У зборніку М. Федароўскага побач з выдатнымі па зьместу й трапнымі выслоўямі, якія жывуць і сяньня й ня страцілі сваёй сьвежасьці й актуальнасьці, ёсьць таксама вульгарныя, рэлігійныя, антынародныя прыказкі й прымаўкі. Яго, як і шмат каго з этнографаў і фальклярыстых XIX стагодзьдзя, не хваляваў ідэйны, сацыяльны зьмест прыказак. Таму ў зборніку стаяць побач, напрыклад, і антыпанскія прыказкі й прыказкі антынародныя, зьневажальныя для народу, створаныя ў асяродзьдзі эксплуатататараў, ворагаў простага чалавека».

Няма аніякага сумлеву, што сказанае пра М. Федароўскага, тычыцца і ўсіх іншых — першага беларускага этнографа й паэта Я. Чачота і І. Насовіча, Е. Ляцкага і Е. Раманава, З. Рачанкі і П. Шэйна, П. Шпілеўскага і, навет Р. Шырмы, бо ніводнага зь іх «не хваляваў ідэйны, сацыяльны зьмест» вуснае народнае творчасьці й кажны зь іх, як гаворыць Ф. Янкоўскі, «клапаціўся перш за ўсё аб тым, каб запісаць усё, што пачуў».

Дык от, нястача «ідэйнасьці» й «клясавае пільнасьці» — з аднаго боку, і патрэба ў «выпакладаным» і «падмыленым» «сацыялістычным рэалізмам» зборніку, «які зьявіўся-б даведнікам і дапаможнікам для настаўнікаў і працаўнікоў друку, агітатараў і прапагандыстых, студэнтаў і вучняў» і змусіла, думаецца нам, «мудрых» бальшавіцкіх гаспадароў і фальсыфікатараў даць дазвол Акадэміі навук БССР выдаць зборнік «Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі» кандыдата філялягічных навук Ф. Янкоўскага.

Адкідаючы штучнае прапагандовае словаблудзьдзе савецкіх прыказак і прымавак, яўнае фальшаваньне асобных прыказак і прымавак, апусканьне гэтак званых «апорных» або «галоўных» словаў — лягізмаў прыказак і прымавак, тое, што называецца «падбіваньнем пад савецкі капыл», зборнік Ф. Янкоўскага ёсьць вельмі прыемнай зьявай на Беларусі — там, дзе «апанавалі чэрці сьвятое месца», бо-ж беларускі чытач будзе мець з аднаго боку, пад рукамі той хоць маленькі грунт, на аснове якога створыць свае новыя прыказкі й прымаўкі, якія, мінаючы добрыя й благія часы, увойдуць у скарбніцу нацыянальнае мудрасьці й стануцца гістарычнымі помнікамі сяньняшняга бальшавіцка-камуністычнага прыгнёту, сацыяльнае няроўнасьці і няволі, а з другога — узнаўляючы ў памяці старыя прыказкі й прымаўкі беларускі народ выкарыстае іх, выказваючы свае адносіны да сучаснага ладу — да ладу няволі й прыгнёту. Запраўды, бальшыня дарэвалюцыйных прыказак і прымавак вельмі-ж добра стасуецца да бальшавіцкае няволі на Беларусі. Падамо некалькі прыкладаў:

Аднаму льецца, а другому нават ня капае.

Аднаму аж з горла прэ, а другі з голаду мрэ.

Б'юць і плакаць не даюць.

Бяда на бядзе едзе, бядою паганяе.

Вось табе хамут і дуга, а я табе ня слуга.

Голы разбою не баіцца.

Дзе адзін пануе, там сто пануе.

Для халуя і ката адна падрыхтавана плата.

Жар гарыць, вада кіпіць, толькі няма чаго варыць.

І недаступіў — б'юць, і пераступіў — б'юць.

Каторы конь цягне, таго й паганяюць.

Круцель на круцялі едзе й круцялём паганяе.

Недастаткі гоняць з хаткі.

Ня п'ём, ня гуляем, а нічога ня маем.

Ня я плачу — бяда плача.

Прымусовая работа самая цяжкая.

Сыты галоднаму не спагадае.

Той мае, хто ў руках трымае.

Уеліся злыдні, як вошы ў цела.

Хвалі хлеб у сьвірні, а ліхадзея ў труне.

Ядзім хлеб траякі: чорны, белы і ніякі; і г. д.

Другая частка зборніка — «Новыя прыказкі і прымаўкі» — як мы ўжо гаварылі, ня мае нічога супольнага з народнай творчасьцяй. Гэтак званыя «новыя» прыказкі й прымаўкі — гэта бальшавіцкія лёзунгі. На самай справе, хіба-ж беларускі народ ствараў такія, напрыклад, прыказкі, як «Ад ленінскай навукі мацнеюць розум і рукі»?, або — «Голас партыі — голас міру»? Не, гэтакае дрэні не ствараў.

Гэтую другую частку трэба было-б пачаць такою, запраўднаю прыказкаю:

**Ад ленінскай навукі сохнуць розум і рукі.**

Пасьля яе — вось такія й да іх падобныя:

Бальшавіку, як і чорту, нічым не дагодзіш.

На нашым бальшаку — усе слупы бальшавіку.

Масква плачу ня верыць, а людзі Маскве.

На калгасным полі ні хлеба, ні волі.

Калгасны працадзень да дабра не давядзе.

У калгасе, як у той ступе, — адзін таўчэ, а ўсе таўкуцца.

У савецкай вароны і голас хвалёны.

Савецкая ўлада й сама сабе ня рада.

Уеліся бальшавікі ў косьці, як клешч у авечую скуру.

У калгасным засеку — ні мышы, ні чалавеку.

У Крамлі грызуцца, а ў людзей ногі трасуцца.

Царкву зачынілі, каб у турме маліліся.

Хрушчоў, як месяц, — лысінаю сьвеціць, ды ня грэе.

Чалавек любіць партыю, як кот сабаку.

Крамлём сьвету не падпаліш.

Ад ленінскага запавету гора цэламу сьвету.

Баіцца, як камуніст крыжа.

Хрушчоў лёстачкамі душу вымае.

На калгасным двары і лопух жаўцее.

Ні вольнай часінкі, ні ў роце расінкі.

Голас партыі — голас маны; і г. д.

Адным словам, «партыйны падарунак беларускаму народу» да саракагодзьдзя кастрычніцкага перавароту яшчэ раз даводзіць тое, як бальшавікі хвальшуюць беларускую мінуўшчыну, і цяперашчыну. Інакш кажучы, — **і б'юць, і плакаць не даюць!**

Але-ж будзе й на нашай вуліцы кірмаш!

**У. Д.**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

# Творы Максіма Багдановіча 10)

* * *

Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людзкі скрозь заліў паясы тратуараў,
Блішчаць вокны, ліхтарні ўгары зігацяць,
І гарачь аганьком вочы змучаных твараў!

А зьвярні у завулак — ён цесны, крывы;
Цёмны шыбы глухіх, старасьвецкіх будынкаў;
Між каменьнямі — мох і сьцяблінкі травы,
І на вежы, як круглае вока савы,
Цыфэрблят — пільны сьветка мінулых учынкаў.

Ціша тут. Тут маўклівa пасталі — і сьняць
Ў небе купалы, брамы, байніцы і шпіцы;
Грук хады адзінокай здалёку чуваць,
Часам мерныя ўдары звана задрыжаць
І замоўкнуць, памкнуўшы ад старай званіцы.

Спамяні маё сэрца, даўнейшыя дні!
Па загадзе бурмістра усе, як належа,
Зачынілі ўжо вокны; загасьлі агні...
Варта вулкай прайшла... І ня сьпім мы адны —
Я ды чорны кажан, што шнуруе ля вежы.

1912

### У ВІЛЬНІ

(Санэт)

Ліхтарняў блеск у сіняй вышыне...
Вітрынамі зіяючыя крамы...
Кавярні... мора вывесак... як плямы,
Анонсы і плякаты на сьцяне.

Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
Снуюць хлапцы, суючыя рэклямы,
Разношчыкі крычаць ля кажнай брамы...
Грук, гоман, гул, — усё ракой імкне.

А дальш — за радам кас, лямбардаў, банкаў —
Агні вакзалу... павадка хурманкаў...
Віры людзей... сіпячы паравоз...

Зялёны сэмафор... пакгауз... склады...
Заводаў коміны пад цьмой нябёс...
О, гораду чароўныя прынады!

1912

* * *

За дахамі места памеркла нябёс пазалота;
Паветра напоена ціха гусьцеючым змрокам;
Ўжо значна, як іскры зьлятаюць з трамвайнага дроту,
Як зоркі гарачь і зрываюцца ў небе далёкім.

Музыкі стагнаньне ліецца па вулках з бульвару;
Гарачь і агнём машкару к сабе вабяць ліхтарні;
Круг тоўстага шкла яна ўецца, як лёгкая хмара,
А к сьвету прабіцца ня можа... і томіцца марна.

І ўспомніў я час: між асеньняй нахмуранай ночы
Музыка зайграла, агні ў вышыні запалалі,
І дыхалі грудзі шырока, сьвяціліся вочы...
Мы к сьветлу ўзьляцелі... і шкло круг яго напаткалі.

1911

* * *

На глухіх вулках — ноч глухая.
Ня менш глухі людзкі натоўп.
Дык хто-ж пачуе, як сьпявае,
Як стогне тэлеграфны стоўп?

І места, дзе няма прастору
Дзеля прыроды буйных сіл,
Прабіла сьцежку мору гора
Палёў, лясоў, капцоў, магіл.

Палёў, дзе круціць завіруха,
Ўзрываючы халодны сьнег,
Палёў, дзе ўсё бушуе глуха,
Дзе чутны разам стогн і сьмех!

І вось той гул мне ў душу ўліўся.
Гудзі, гудзі, дрыжачы дрот!
Ўвесь бледны, млосны прыхіліўся
Я ля ліхтарні да варот.

1912

### ЗАВІРУХА

У бубна дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе,
І сьпеў ліецца ўсё мацней, —
Гулянку справіў пан Падвей.
У бубна дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.
Ўськіпела сьнежнае віно,
І белай пенай мкне яго.
У бубна дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сп'янелая мяцель.
У бубна дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, зьвініць, пяе.

1912

* * *

Сеў хлопчык з шкляначкай ля вулічнага ганку
І выдзімае з мыла пузыры.
Вясёлкаю гарачь яны у зьзяньні ранку,
Ўзьлятаючы ў паветра дагары.

І, заварожаны шматхварбнаю красою,
Із спрытнасьцяй і хцівасьцяй ката
Хапае хлопчык іх няжорсткаю рукою,
А застаецца ў ёй — адна слата.

1912

Ф. Кушэль

# Бітва ля ракі Ворсклы

**(У пэрспэктыве часу)**

У канцы 12-га й пачатках 13-га стагодзьдзяў на далёкіх, бязьмежных прасторах Азіі сталіся падзеі, якія заважылі ды важаць мо й да сяньня на ўсёй гісторыі ўсходняе Эўропы, а гэтым самым і на эўрапэйскай гісторыі наагул. У гэным часе якраз хан Манголаў Тэмучын задзіночыў, панявольваючы сілаю зброі, вандроўныя плямёны Сярэдняе Азіі ў вадну вялікую дзяржаву, выявіўшы пры гэтым гэніяльныя арганізацыйныя й вайсковыя здольнасьці. У вадрозьненьне ад іншых мангольскіх ханаў, ён назваў сябе Чынгіс, гэта значыцца — Вялікім Ханам і наважыў заваяваць увесь сьвет. Першы наступ на шляху да заваёвы сьвету Чынгіс-Хан накіраваў быў на бліжэйшую, бо суседнюю, Кітайскую імпэрыю. Заваяваўшы яе ў кароткім часе, ён прагнаў дынастыю, што там панавала, і абвесьціў сябе кітайскім імпэратарам. Пасьля Кітаю Чынгіс-Хан заваяваў вельмі на тыя часы культурную імпэрыю Харэзм, якая складалася з колькіх туркмэнскіх эмірстваў на прасторах сяньняшніх Афганістану й Туркестану. Пасьлей была заваяваная Індыя па раку Інд і Пэрсія. Дайшоўшы ў сваім пераможным паходзе да Касьпійскага мора, Чынгіс-Хан выдзяліў асобную армію пад камандай свайго сына Тулуя, якая пераплыла Волгу й накіравалася на захад заваёўваць Эўропу. Полаўцы, што засялялі ў тыя часы ўсходнія стэпавыя прасторы сяньняшняе Украіны, сутыкнуўшыся зь нязьлічонымі мангольскімі гордамі, уцяклі ў межы паўдзённых рускіх княстваў. Тутка яны палучыліся з войскамі згаданых княстваў і спрабавалі супольнымі сіламі даць адпор наезьнікам Тулуя. Абедзьве варожыя арміі сустрэліся ля ракі Калкі. Тутка й адбылася ў 1223 годзе тая славутая бітва, у выніку якое задзіночанае руска-палавецкае войска было дазваньня зьнішчанае. Ачысьціўшы гэткім чынам шлях на захад, пераможная армія Тулуя дайшла да Дняпра. Далей яна не пайшла й неўзабаве павярнула назад на Ўсход, дзе над ніжняю Волгаю была заснаваная новая мангольская дзяржава — Залатая Арда. Гэтак, у першай палове 13-га стагодзьдзя на прасторы сяньняшняе паўдзённа-ўсходняе Расеі ды Ўкраіны паўстала магутная імпэрыя Чынгіс-Хана, межы якое абапіраліся на захадзе на Днястры, а на ўсходзе сягалі Вялікага Акіяну, ахапляючы й Кітай, і Харэзм і цэлы сьцяг іншых тагачасных краінаў.

Пасьля сьмерці Чынгіс-Хана ў 1227 годзе ягоны сын Джучы накіраваў свайго сына, хана Залатое Арды Батыя на далейшую заваёву Захаду. Батый павёў свае войскі ў паўночна-рускія землі, якія ня былі дагэтуль зачэпленыя мангольскімі заваёўнікамі. На прасторы сяньняшняе Вялікарасеі існавалі ў тую пару шмат дробных, незалежных, канкурэнцыйных у дачыненьні адно да аднаго княстваў. Ня дзіва, што хоць некаторыя з гэтых княстваў і прабавалі ставіць мангольскай навале гэраічны падчас супраціў, усе яны былі захлёснутыя непаўстрымнай мангольскай хваляй.

Не дайшоўшы да Ноўгарада з прычыны непраходных пушчаў ды балатоў, Батый павярнуў на паўдня. Дасягнуўшы Кіева, пасьля зацятага змаганьня й даўгое мужнае абароны жыхарства, Батыю ўдалося здабыць места й цалкам яго зьнішчыць. Ад Кіева Батый пайшоў проста на захад, нішчачы агнём ды мячом усё, што татарскія горды сустракалі на сваім шляху Нарэшце, перайшоўшы праз Карпаты, Батый паняволіў Вугоршчыну. Тут дагнаў яго ганец, высланы Батыявай маткай, зь весткаю аб сьмерці Чынгіс-Хана Джучы. Спадзяючыся атрымаць бацькаўскі пасад, Батый павярнуў назад. Аднак, заваёвы Чынгіс-Хана ў Азіі і два паходы на Эўропу стварылі былі ўжо для Манголаў апінію жахлівае, неперамажнае магутнасьці ў народаў усяго тагачаснага сьвету. І запраўды, дасягненьні Манголаў былі вартыя гэткае апініі. У склад Залатое Арды трапіла ня толькі ўся сяньняшняя Украіна, але й Крым ды Паўночны Каўказ. Сталіся васальнымі гаспадарствамі Залатое Арды й паўночна-рускія княствы, улучна з Масквою. Дзеля ўтрыманьня пераможаных народаў у нясупынным страху, хан Залатое Арды трымаў напагатове вялікую армію, у якую набіраў ваеньнікаў і з паняволеных земляў, пераважна цюрскага паходжаньня. Дзеля гэтага пад назваю «Татары» трэба разумець ня толькі Манголаў, але й іншыя народы, што служылі ў войсках Залатое Арды.

У часы нараджэньня імпэрыі Чынгіс-Хана, у гады спусташальных, жахлівых мангольскіх наездаў на ўсходнюю Эўропу, над Нёмнам нараджалася новая моц — Вялікае Княства Літоўскае. У сярэдзіне 13-га стагодзьдзя вялікі князь літоўскі Міндоўг арганізаваў быў вялікую дзяржаву із сталіцаю Наваградкам. Ён каранаваўся каралеўскаю каронаю й меў пад сабою 21 удзельнае княства.

У першай палове 14-га стагодзьдзя вялікі князь Літоўскі Гэдымін значна пашырыў Міндоўгавую спадчыну, вядучы пераможна войны з Крыжакамі й Польшчаю на захадзе ды перасоўваючы межы свайго гаспадарства на паўдня і ўсход. Гэдымінаў сын Альгерд разьбіў у 1362 годзе на Падолі тры татарскія горды, адсоўваючы мяжу Залатое Арды на ўсход і адчыняючы Вялікаму Княству Літоўскаму дарогу да Чорнага Мора. У 1368 годзе-ж адбыўся ведамы паход Альгерда на Маскву, калі ён падыйшоў быў пад муры расейскае сталіцы й змусіў да выяўленьня пакоры маскоўскага князя Дзьмітра, вынікам чаго было далучэньне да Літвы Старадубу й Трубчэўску. Гэткім чынам уся сяньняшняя этнаграфічная прастора Беларусі ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага й сталася асноваю магутнасьці гэтага гаспадарства.

Як ужо прыгадвалася, паўночна-рускія княствы былі даньнікамі Залатое Арды. У стэпах Украіны пасьвіліся нязьлічаныя стады татарскіх вандроўнікаў. Адно Вялікае Княства Літоўскае было ўсьцяж вольнае. Залатая Арда ніяк не магла з гэтым пагадзіцца. Раз-паразе пасылала яна свае горды дзеля заваёвы Вялікага Княства Літоўскага, але ўдачы ня мела, бо літоўскія князі заўсёды адкідалі татарскіх наезьнікаў ад сваіх межаў зь вялікімі для іх стратамі. Вялікі Князь Вітаўт канчальна скансалідаваў Вялікае Княства Літоўскае, дакладна ўстанаўляючы ўсходнюю мяжу гаспадарства. Мяжа гэтая йшла ракою Уграю й даходзіла блізу да самага Мажайску.

Гэткім чынам у другой палове 14-га стагодзьзя на ўсходзе Эўропы станулі адна супраць аднае дзьве магутныя дзяржавы — Вялікае Княства Літоўскае (Беларускае) з аднаго боку й Залатая Арда — зь іншага. Абодвы гэтыя гаспадарствы сталіся спаборнікамі за панаваньне над усходам Эўропы. Раней ці пазьней, а да зудару між імі дайсьці мусіла.

Дзеля таго, што Масква была ў тыя часы вельмі слабая, а да таго-ж — даньнікам Залатой Арды, Вялікі Князь Вітаўт ня меў-бы цяжкасьцяў у падпарадкаваньні яе Вялікаму Княству Літоўскаму. На перашкодзе, адылі, стаяла Залатая Арда й таму Вітаўт наважыў перш вайскова «памацаць» Залатую Арду. Дзеля зручнейшага кіраваньня выкананьнем свайго ўсходняга пляну, Вітаўт перанёс сваю гасподу ў Смаленск і ў 1396 годзе паслаў свае войскі ў межы Залатое Арды.

Разьбіўшы татарскія вайсковыя аддзелы, якія прабавалі паўстрымаць літоўскі паход, войскі Вітаўта дайшлі да ракі Дону недалёка ад ягоных утокаў у Азоўскае мора й вярнуліся пераможнікамі ў Літву. У 1397 годзе Вітаўт ужо сам, на чале значнае арміі, ізноў пайшоў паходам на Залатую Арду. Ён перайшоў Дон, дасягнуў берагоў Волгі, але нідзе не напаткаў паважнейшага супраціву ворага. Варочаючыся ў межы Вялікага Княства, Вітаўт прыгнаў вялікую колькасьць палонных і нязьлічаныя статкі жывёлы. Палову гэтае здабычы ён падараваў польскаму каралю Ягайле. Людзей-жа пакінуў у Ліцьве. Татары гэтыя й былі продкамі нашых беларускіх Татараў, якія да сяньня жывуць у шмат якіх мясцовасьцях Беларусі. Прыгаданыя два паходы на Залатую Арду пераканалі Вітаўта, што мангольскія заваёўнікі ня ёсьць неперамажныя і што можна пачынаць з Залатою Ардой вайну, спадзяючыся яе выйграць.

Пачаліся прыгатаваньні да вялікае вайны із Залатою Ардою. Каб мець падтрыманьне дзяржаваў Заходняе Эўропы, Вітаўт наважыў надаць свайму паходу рэлігійны характар — абвесьціць яго крыжовым паходам супраць няверных. У Вялікім Княсьцьве Літоўскім была праведзеная шырокая мабілізацыя. Пад зброю былі пакліканыя ўсе ўдзельныя князі, ад Жмудзі да Севершчыны ўлучна. Кажны князь мусіў стаць на чале сваіх людзёў. Змабілізаваныя аддзелы былі сканцэнтраваныя ў Кіеве. На Вітаўтаў заклік сваіх рыцараў у сіле ста копіяў*) прыслаў пад камандай комтура Рагнэты навет Крыжацкі Закон. Прыслалі чатырыста копіяў пад камандай Кракаўскага ваяводы Спытка з Мэльштына й Палякі. Іншыя заходня-эўрапэйскія дзяржавы прыслалі таксама невялікія аддзелы рыцарства. Гэтак, калі канцэнтрацыя была скончаная й Вітаўт зрабіў перагляд свайго войска, ён быў перакананы, што мае неперамажную армію зь вялікім баявым запалам, дасканалым вонкавым выглядам і належным камандным складам, бо, як падаюць гісторыкі, адных князёў у ёй налічвалася да пяцідзесяцёх.

У пачатках ліпеня 1399 году Вітаўт пераправіў сваю армію на ўсходні бераг Дняпра й павёў яе на паўдня ўздоўж ракі. З гледзішча стратэгічнага Вітаўту залежыла на тым, каб захапіць броды на Дняпры ніжэй Крамянчуга. Праз гэтыя броды ўлетку можна было лёгка перайсьці Дняпро. Празь іх і праходзілі Дняпро ўсе азіяцкія заваёўнікі, што ішлі на захад, пачынаючы ад славутага Атылі. Броды былі Вітаўтам апанаваныя, калі войскі ягоныя сягнулі ракі Ворсклы.

Што-ж рабілася гэтым часам у Залатой Ардзе?

Пасьля сьмерці Чынгіс-Хана ягоная вялізарная імпэрыя, створаная й трыманая вылучна сілаю мяча, пачала паволі распаўзацца. У палове 14-га стагодзьзя ў Кітаі скончылася дынастыя Чынгіс-Ханаў. Да ўлады прыйшла кітайская дынастыя, якая пачала панаваць самастойна й Кітай стаўся незалежнаю ад Мангольскае імпэрыі дзяржавай. Вызвалілася з пад мангольскага панаваньня й эмірства Харэзму. Незалежным гаспадарствам сталася й Залатая Арда. Кіравала Залатою Ардой вайсковая алігархія, якая складалася з буйнейшых вайскавікоў, г. зв. цемнікаў, якія мелі пад сваёй камандай ня менш дзесяцёх тысяч людзей кажны. Цемнікі былі ханскага паходжаньня. Сходы цемнікаў зваліся Курултаямі. На іх абмяркоўваліся ўсе важнейшыя вайсковыя й дзяржаўныя справы, так што яны былі нечым падобным да сучасных парляманцтаў. Імі-ж выбіраліся й ханы Залатое Арды.

У палове 14-га стагодзьдзя ў Туркестане зьявіўся новы заваёўнік Тымур, або Тамэрлян. Ён быў цюрскага паходжаньня й меў ня меншыя вайсковыя здольнасьці, чымся Чынгіс-Хан. Тамэрлян паставіў сабе мэтаю адбудаваць імпэрыю гэтага гэніяльнага ваеньніка. Ён заваяваў эмірства Харэзму, Пэрсію, Паўночную Індыю, Арабію з Багдадам, Асманскую (Турэцкую) імпэрыю ды інш. Чалавек ён быў нязвычайна жорсткі, паняволеныя краіны руйнаваў, а жыхарства выбіваў, укладаючы з адцятых забітым галоваў вялізныя піраміды. Залатую Арду Тамэрлян падпарадкваў сабе без вайны, стаўшыся там дыктатарам, які вызначаў ханаў і сам, бяз курултая, заладжваў усе справы гаспадарства. Першым гэткім ханам, пастаўленым Тымурам над Залатою Ардою, быў цемнік Тахтамыш. Але ўжо неўзабаве Тахтамыш страціў быў ласку Тамэрляна й мусіў ратавацца ўцёкамі з Залатое Арды. Разам із вернымі сабе ваяўнікамі й сям'ёю, Тахтамыш перайшоў мяжу Вялікага Княства Літоўскага й цапрасіў у Вітаўта прыпынку, за што прырок яму вайсковую дапамогу, калі толькі яна Ліцьве спатрэбіцца. Вялікі Князь Вітаўт прыняў Тахтамыша й вызначыў яму для жыцьця прастору між Чаркасамі й Зьвенігарадам. Войска Тахтамыша было таксама далучанае да вялікае арміі Вітаўта, згуртаванай пры рацэ Ворскле.

Залатая Арда ведала, што Вялікі Князь Вітаўт рыхтуецца да вайны зь ёю і пачала да яе рыхтавацца й сама. Пасьля ўцёкаў Тахтамыша ханам Залатое Арды стаўся з волі Тамэрляна Тымур-Кутлук. Правая рука Тамэрляна — хан Эдыгей — атрымаў даручэньне заняцца вайсковаю прыгатоваю Залатое Арды да вайны зь Вялікім Княствам Літоўскім. Сам Тамэрлян удзелу ў згаданых прыгатовах ня меў — ён рыхтаваў паход дзеля заваёвы Кітаю.

У тым самым часе, калі войскі Вітаўта выйшлі зь Кіева, армія Залатое Арды на чале із ханам Тымур-Кутлуком, пакінула берагі Волгі, кіруючыся на захад, на Крамянчуг. Ідучы стэпам уздоўж паўдзённага берагу Ворсклы, недалёка ад ейных утокаў у Дняпро, хан Тымур Кутлук пабачыў зьнячэўку на паўночным беразе Ворсклы вялізную армію Вялікага Князя Вітаўта. Затрымаўшы свае войскі, ён паслаў да Вітаўта пасланцоў на перамовы. Тымур-Кутлукавыя паслы запэўнілі князя Вітаўта, што Тымур-Кутлук вельмі шануе яго, ня мае ў дачыненьні да яго аніякіх варожых намераў, а просіць адно вярнуць яму ягонага зьбеглага нявольніка Тахтамыша, які знайшоў у Вітаўта апеку. Вітаўт адкінуў жаданьне Тымур-Кутлука і ў сваю чаргу паставіў свае ўмовы. Ён зажадаў, каб Тымур-Кутлук прызнаў яго сваім «бацькам», каб на грашох Залатое Арды выбіваўся ў сувязі з гэтым знак Вітаўта ды каб Залатая Арда плаціла Вялікаму Князю Літоўскаму даніну. Тымур-Кутлук папрасіў Вітаўта даць яму тры дні на развагу ўмоваў, на што Вітаўт згадзіўся. Тымчасам, на трэйці дзень да войска Тымур-Кутлука далучылася вялікая армія пад камандаю хана Эдыгея. Некаторыя летапісцы пры-

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

*) Копія — рыцар із сваім почтам, складам ад колькіх да дзясяткаў чалавек залежна ад знатнасьці й багацьця рыцара.

---

* * *

Ад сьпёкі пышуць дахі і асфальт,  
На вуліцы ўеццa пыл, і грукаціць хурманка;  
«Каробачку» пяе дзіцячы альт,  
І надрываецца абрыдлая шарманка.

Мо на бульвар пайсьці, на дальнай сесьці лаўцы,  
Хаця каб крышку часу адпачыць!  
Здрамнуць, газэту сьвежую купіць  
І прачытаць усё аж да імя выдаўцы?

1912

## ДЗЬВЕ СЬМЕРЦІ

Учора на Мяшчанскай вул., д. № 17 атруцілася сінільным квасам І. Іванова. Прычыны самагубства невядомыя.

Калі патрыцы сьмерць з прыветам спатыкаў,  
Прабіўшы жылы на руках,  
Дрыжэлі сьпевы флейт, дзень ясны дагараў,  
А праз вакно ручайкай вецер павяваў  
І . . . мігдаловы горкі пах.

Ты, грозны жэбарак, учора ўзяты зноў;  
На стродка сьціснутых губах  
Ня імгліцца люстра гладзь; застыгла ў жылах кроў;  
Скрозь вее цяжкі дым ад спаленых лістоў  
І . . . мігдаловы горкі пах.

1912

## Думы

**(1909—1912)**

С Израилем певцу один закон:  
Да не творит себе кумиров он.  
Е. Баратынский

## С. ПАЛУЯНУ

Глянь, як зорка у цемні ляціць,  
Ўсіх чаруючы сьветлам сваім;  
Быццам зьмей залаты зігаціць  
І стухае у небе глухім.

Але спомніць яшчэ зорку сьвет,  
Бо у сэрцах гарыць яе сьлед.  
Так свабодна, так ярка пражыць —  
Лепшай долі няма на зямлі:

Ўсё вакол на мамэнт асьвяціць  
І пагаснуць у цёмнай імглі.  
Ўсё зьнікае, праходзіць, як дым,  
Сьветлы-ж сьлед будзе вечна жывым.

1910

**Увага.** У новай рэдакцыі «Вянка», рыхтаванай аўтарам перад сьмерцяй, верш выкасаваны.

## КАГАНЦУ

Змоўк пясьняр, затаіў свае песьні,  
Ён іх болей ужо не пяе.  
Але рвуцца яны, і калісь на прадвесьні  
Лёд халодны ў душы пад напорам іх трэсьне.  
І ручма лынуць вершы зь яе.  
Гэтак часам зыходзіць у зямлю крыніца,  
Дзесь у нетрах таёмна бяжыць,  
Але мусіць урэшце на волю прабіцца,  
Шмат яшчэ па зямлі будзе ліцца-каціцца  
І радзімаму краю служыць.

1910

**Увага.** У новай рэдакцыі «Вянка», рыхтаванай аўтарам перад сьмерцяй, верш выкасаваны.

## УПАЛІ З ГРУДЗЕЙ ПАНА БОГА

Упалі з грудзей Пана Бога,  
Парваўшыся, пацеркі зор.  
Яны раскаціліся ў небе,  
Усыпалі сіні прастор

І гэтак маркотна і пільна  
На край наш нядольны глядзяць . . .  
Што-ж чуюць яны там, што бачаць?  
Чаго ўсё дрыжаць і дрыжаць? . .

1910

## КРАЮ МОЙ РОДНЫ! ЯК ВЫКЛЯТЫ БОГАМ . . .

Краю мой родны! Як выкляты Богам —  
Колькі ты зносіш нядолі.  
Хмары, балоты: . . Над збожжам убогім  
Вецер гуляе на волі.

Поруч разьлегліся родныя вёскі.  
Жалем сьціскаюцца грудзі ! —  
Бедныя хаткі, тапалі, бярозкі,  
Ўсюды панурыя людзі.

Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,  
Вынесьлі моцныя сьпіны;  
Шмат іх прымусілі выцерпець мукі  
Пушчы, разлогі, нізіны.

Кінь толькі вокам да гэтага люду —  
Сьціснецца сэрца ад болю:  
Колькі пабачыш ты гора усюды,  
Колькі нуды без патолі.

Песьня пяе, як удовіна сына,  
Янку, каханьне згубіла;  
Там, дзе панура хінецца каліна,  
Беднага хлопца магіла.

Ў гутарках-казках аб шчасьці, аб згодзе  
Сэрца навін не пачуе.  
Сьціснула гора дыханьне ў народзе,  
Гора усюды пануе.

Хваляй шырокай разьліла, як мора,  
Родны наш край затапіла . . .  
Брацьце! Ці зможам грамадзкае гора?!  
Брацьце! Ці стане нам сілы?!

1909

(Далей будзе)

